# СУСТРЭЧЫ

НОВЫЯ !!!

НОВЫЯ !!!




ГАЗЕТА КРУЖКА БЕЛАРУСКАГА АБ'ЯДНАННЯ СТУДЭНТАЎ У ВАРШАВЕ

НУМАР 1 (?) год 1997

САКАВІК

БАС

## АД ГАЛОЎНАГА

Вітаем усіх сваіх прыхільнікаў. Тых, якія супраць нас, не вітаем, бо і навошта. У мінулым мы вельмі многа думалі. Думалі зранку, у абед, вечарам, а нават і ўначы. Гэтае думанне, здаецца, не мела б канца, каб мы не выдумалі рэактываваць **СУСТРЭЧЫ**. Дык мы цяпер і ВЯЛІКІЯ рэдактары.

Пра што мы хочам пісаць, цяжка сказаць, хіба пра ўсё, што датычыць беларускага студэнцкага (маладзёжнага) асяроддзя ў Варшаве і на Беласточчыне.

Гавораць - „сіла ў групе”, тады, калі супольна пастараемся, напэўна створым штосьці незвычайнае, пакручанае, несамавітае. Хочам, каб у падрыхтоўцы **СУСТРЭЧАЎ** удзельнічалі не толькі басаўцы з Варшавы, але таксама ліцэалісты і ўсе іншыя маладыя, якія маюць штосьці цікавае сказаць.

Я, гэта значыць
**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

## РЭДАКЦЫЯ

1. **Агнешка Беглюк**
2. **Варвара Мусюк**
3. **Міраслаў Пац**
4. **ЯН НІКІЦЮК - малюнкі**
5. **Лукаш Сцяпанюк**

## У НУМАРЫ



## ПРЫВІТАННІ

**Перадаем прывітанні „Ніве”, „Часопісу”, „Гарадоцкім Навінам”. Нам вельмі прыкра, што забяраем Вам чытачоў.**

**рэдакцыя СУСТРЭЧАЎ**

### НАШ АДРАС


Ł. STEPANIUK LUB MIROSŁAW PAC
UL. SMYCZKOWA 5/7 p. 32
02-678 WARSZAWA

## ФІЛ-ФАК У ВАРШАВЕ... (першы курс)

На першым курсе беларускай філалогіі ў Варшаве каля трыццаці пяці стыдэнтаў. Заўсёды хтосьці тут прыходзіць новы, рэзігнуе іншы, таму мне самому, студэнту гэтага факультэта, цяжка злічыць, колькі нас тут ёсць. З гэтай агульнай лічбы (35), толькі чатыры асобы мелі дачыненне з беларускай мовай і культурай. У іхнім выпадку, можна зразумець, чаму выбралі гэты факультэт. Паўстае пытанне, чаму аж трыццаць адна асоба, большасць з якіх да гэтай пары не ведала ні воднага беларускага слова, паступілі тут вучыцца? Адказ на гэтае пытанне я вырашыў атрымаць ад іх саміх:

Я: Чаму вы рашылі паступіць на беларускую філалогію?

ПЕРШАЯ АСОБА (П.А.)
- гэ гэ гэ!? Не ведаю.

ДРУГАЯ АСОБА (Д.А.)
- таму, што недалёка адгэтуль жыву

ТРЭЦЯЯ АСОБА (Т.А)
- я маю бабулю ў Цісаўцы, і я хіба таму тут

ЧАЦВЁРТАЯ АСОБА (Ч.А)
- тут было найменш кандыдатаў, а мне хацелася дзесці вучыцца. Можа ў наступным годзе перанясуся на іншы факультэт. Пакуль што, мне тут добра, асабліва цешыць мяне тое, што дадаткова можна залічыць тут польскую філалогію.

Найбольш адказаў на гэтае пытанне гучалі як першы адказ, гэта значыць „гэ гэ гэ!? Не ведаю”. Аднак найчасцейшым адказам, была яго адсутнасць. Вельмі часта хлопцы гаварылі, што яны тут таму, што іх чакаюць „у салдатах”.

Я: Што думаюць твае бацькі пра твой выбар?

П.А.: Мае бацькі вельмі шчаслівыя, дык я сапраўдны студэнт.

Д.А.: Мае бацькі шчаслівыя, асабліва таму, што мяне чшчэ не выкінулі

Т.А.: Бацькі! Гавораць, што я з гэтай філалогіі нічога не буду мець, але я інакш думаю.

Ч.А.: Бацькі, як бацькі, памагаюць, хаця б у фінансавых справах.

Я: Ці хочаце вучыцца тут да канца і закончыць беларускі факультэт?

П.А.: Калі мяне не выкінуць... Хацеў бы.

Д.А.: Пэўна, што хачу

Т.А.: Гэта залежыць, што будзе ў маёй найбліжэйшай будучыні

Ч.А.: Я яшчэ не ведаю

Калі пагаварыць з другім і трэцім курсамі беларускай філалогіі ў Варшаве, адказы будуць падобнымі. Думаю, што так вялікая колькасць студэнтаў не з'яўляецца наступствам сённяшняй сітуацыі ў Беларусі, а людзі, якія так думаюць, памыляюцца. Амаль ніхто з гэтых студэнтаў не ведаў, якая ў Беларусі сапраўдная сітуацыя, за што там дакладна змагаюцца, і што пра гэта думаць.

СТЭП



Лукаш Сцяпанюк

## ЗЯЛЁНЫЯ КАМЕНЬЧЫКІ

Адплываю са свету
Замоўклі жанчын крыкі
Я - цяпер дзесці між зор
У руцэ маёй - каменьчыкі

Кідаю, яны не лецяць
Які я цяпер шчаслівы
Падпальваю, не свяцяць
Ці я ёсць? Ці жывы я?

Я, хіба, зараз у небе
Не, у пекле мой кут
Не бачу зусім сябе я
Відаць, няма мяне ні там, ні тут

А можа я ёсць-такі дзесці
Там, дзе іншых брак
Ці горад гэта, ці вёска
Прапаў недзе шчасця смак

1995

## СТРАХ

Хацеў я крыкнуць
Але - засраўся

1996

---

Наш ананім

Мне снілася іншае жыццё
цудоўныя краявіды
шчаслівыя людзі
Бязкрэсны спакой і я

Я была княгіняй эльфаў
у імглянай сукні
княгіняй зусім непаспалітай -
прыгожай, мудрай, каханай -
і я калісь заснула

Мне снілася іншае жыццё
Дзіўныя відокі
Загубленыя людзі
Вячысты неспакой
і я
Я была сабою

22.11.1996

**СЯРОД МНОГІХ РУБРЫКАЎ АСАБЛІВАЙ УВАГІ Ў НАШАЙ ГАЗЕЦЕ ЗАСЛУГОЎВАЕ СТАРОНКА „МІНУЛАЕ". ПРАЧЫТАЕЦЕ ТУТ У СКАРАЧЭННІ, ШТО БАС РАБІЎ У МІНУЛЫМ МЕСЯЦЫ Ў ВАРШАВЕ**

**20.11.1996** пры вуліцы Смычковай у Варшаве адбылася сустрэча маладых людзей, якія вырашылі стварыць у сталіцы кружок Беларускага Аб'яднання Студэнтаў. У выніку сустрэчы выбраныя былі ўлады кружка ды вызначаныя галоўныя дарогі на будучае.



**29.11.1996** пад амбасадай Беларусі адбыўся мітынг супраць прэзідэнта Александра Лукашенкі, які быў сарганізаваны „Фракцыяй Маладых" Канфедэрацыі Незалежнай Польшчы. У час дэманстрацыі прадстаўнікі кружка БАС-у ў Варшаве паставілі зніч ля карты Беларусі (глядзі здымак). Пасля, у памяшканнях КНП сабраліся маладыя беларусы з Беларусі і Варшавы, каб паслухаць песні Сяржука Сокалава-Воюша.

**14.12.1996** кружок БАС-у ў Варшаве сарганізаваў мерапрыемства „Басаўка", у час якога можна было паслухаць песні М.Ажэхоўскага, А.Мельнікава і рок-гурту КРАМА.



У „Басаўцы" змясціліся таксама атрасіны беларускіх студэнтаў, якія ў гэтым годзе пачалі навуку ў Варшаве.

**17.01.1997** у будынку пры вуліцы Штурмовай 4 у Варшаве адбыўся агляд фільмаў зрэалізаваных Незалежным Беларускім Тэлебачаннем. Фільмы датычылі адносін беларускага грамадства да А.Лукашэнкі, а таксама спосабаў пацыфікацыі мітынгаў, якія былі арганізаваны супраць беларускага прэзідэнта.



**22.02.1997** у Беластоку адбыўся сход галоўнай рады БАС-у. Падчас сходу былі выбраныя новыя ўлады. ПРЭЗІДЭНТАМ арганізацыі стаў Л.СЦЯПАНЮК, намеснікам Ю.ШУЛЬСКІ, скарбнікам П.ПРАКОПЧЫК, сакратаром Б.МУСІОК.

Барбара Мусюк
фота Л.Сцяпанюка, М.Паца, Ю.Шульскага


ПАД АМБАСАДАЙ БЕЛАРУСІ

## У ПІЎНАЙ КРАМЕ

-за гэта піва плаціце 35 зл.
-колькі? Я маю толькі 34 зл.
-вы мой сталы кліент і спадзяюся , што заўтра аддасце.
-я маю лепшую прапанову. Я вып'ю два піва цяпер і аддам для вас бутэлькі.
-калі ласка
-гуль...гуль...гуль
-ооо! Цяпер згаджаецца, 34 зл.
-прашу , калі ласка
-дзякую , запрашаю часцей.
-напэўна прыйду , заўтра я дастану задатак за працу.

### ДАЎЦІПЫ

- ці бачыш,у тваю хату злодзей лезе ?!
- ціха , ціха , няхай лезе ,жонка падумае , што гэта я. Ды будзе дыхту , зарачэцца ён красці!

- а чаго вы,бабка, плачаце ?
- як жа мне , галубок , не плакаць , калі чыталі ў царкве , што на тым свеце " будзе плач і скрыгат зубамі " ... а чым я буду скрыгатаць , калі ў мяне ні аднюсенькага зуба няма.

- што робіць жанчына ў пакоі ?
- мае за доўгі ланцуг з кухні

Ў ваверкі была імпрэза. Застаўся толькі заяц. На другі дзень заяц расказвае мядзьведзю :
- калі вы пайшлі , ваверка разпранулася і сказала да мяне " бяры , што хочаш "
- і што , і што ?- пытаецца мядзьведзь
- узяў я тэлевізар - адказвае заяц

# ЛІСТА ЗАЕБІСТА ! ! !

Сярод усіх меншасцяў, якія пражываюць у Польшчы, мы - беларусы - займаем спецыфічнае месца, калі гаварыць пра рок-музыку. Хто з нас не ведае пра „Басовішча", „Бардаўскую восень", або „Басаўку". На гэтых мерапрыемствах, беларуская рок-музыка жывая. Тут можна пачуць аб праблемах беларускага народа (НОВАЕ НЕБА), аб праблемах беларускай моладзі (КАРДОН, РФ БРАГА); можам пачуць блус (КРАМА), этнічную музыку (ПАЛАЦ) і музыку родам з Беласточчыны (КАРДОН, РФ БРАГА, ВЯДРО, ДЭ ДВЭРЫ).

Шматлікасць гуртаў, якія співаюць на беларускай мове, прымусіла нас прыдумаць так званую рубрыку „ЛІСТА ЗАЕБІСТА". Дык вось і яна:

| ПЕСНІ | ГУРТЫ |
|---|---|
| 1. Крама " Стэфка " - 12 | 1. КРАМА - 22 |
| 2. Кардон " Айчына "- 10 | 2. КАРДОН - 21 |
| 3. Р.Ф. Брага " Чорны май " - 9 | 3. Р.Ф.БРАГА - 18 |
| 4. Уліс " Пляц Франціска " - 8 | 4. УЛІС - 15 |
| 5. Кардон " Званы " -6 | 5. БОНДА - 7 |

**Вашыя прапановы прысылайце на наш адрас альбо спалучайцеся па тэлефону: 0-22 43-86-21 унутр. 32, прасіце Стэпа альбо Паца. Чакаюць Вас узнагароды -**

**КАШУЛЬКІ З НАДПІСАМ БАС**

**КОНКУРС**
**НОЎ ДРІНК**

Тваe
ўражанні пасля
АЛКАГОЛЮ
(толькі віна ды піва)




Найцікавейшыя працы надрукуем і ўзнагародзім білетам (толькі) у Варшаву ды брудэр-шафтам з галоўным рэдактарам

АЛКАГОЛ ШКОДЗІЦЬ ЗДАРОЎЮ
А АСОБАМ ДА 18-ГА ГОДА
ЖЫЦЦЯ НЕЛЬГА ЯГО ПРАДАВАЦЬ
- ПІШАМ ГЭТА З УВАГІ НА ЛІЦЭАЛІСТАЎ

ЧАСОПіС АШУКВАЕ

У 72 нумары беластоцкага ЧАСОПіСА паявіліся дзве памылкі

1. На здымку які бачыце побач , сярод гуляючых , паяўляецца Л.Сцяпанюк , Над здымкам напісана , што гэты сам Л. Сцяпанюк яго зрабіў . Як гэта магчымае ?




2. Другая памылка датычыць Мар'юша Ажэхоўскага , які , як пішуць у ЧАСОПіСЕ ёсць з Бельска Падляшскага. Як нам вядома, Мар'юш родам з Гайнаўкі.

Апрача гэтага мы маем яшчэ адну заўвагу да ЧАСОПіСА - "не гневайце се на нас , пжыйдзе нас кеды охшанімы рувнеж і НіВЭ ".

НА ГЭТАЙ СТАРОНЦЫ ТАКСАМА МНОГА І НАШЫХ ПАМЫЛАК (АРФАГРАФІЧНЫХ) МЫ

ПАДАРУНАК ДЛЯ МІРАСЛАВА ВАЎРАНЮКА З НАГОДЫ ДНЯ НАРАДЖЭННЯ!!!

— СЭКРЭТЫ —



МЭФ'Ю ФАЦЭТ З ЯЕМ.



У ПРЫРОДЗЕ ЁСЦЬ ТАКСАМА ПАМЫЛКІ

